# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 26 (118). Год II. Вільня, 30 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).


# Прысяга міністроў.

**Нямецкае апавешчэньне 29 марца не дае ніякіх выдатных ведамасьцей.**

---

## Рэволюція у Расеі.

АМСТЭРДАМ. Як даносяць с Пецярбурга, міністры далі гэткую прысягу:

„Як член тымчасоваго правіцельства, занімаючы сваё мейсцо воляй народаў і па прызыву Думы, абяцаю перад Усемагучым Богам і маім сумленьнем верна і сумленна служыць народу і Расейскай дзержаве, заховываць ненарушыма волю яе і пачэсные правы грамадзян, памагаць развіцьцю грамадзкай свабоды і роўнасьці ўсемі маімі пастулкамі і прыказамі і устрымацца ад уселякіх спроб безпасрэдна ці пасрэдна вярнуць стары лад. Я прысягаю, што дзеля выпаўненьня ўсіх павіннасьцей, якіе ўзяў на сябе тымчасовы урад перад вачыма народаў, я выкарыстаю ўсё сваё уменьне і ўсе свае сілы. Я прысягаю, што зраблю ўсё патрэбнае дзеля сазыву ў найбліжэйшым часе устаноўчаго сэйму на аснові простаго, роўнаго і тайнаго выбарнаго права, што аддам у рукі гэтаго сэйму ўсе правы, якіе маю ў супольнай рабоці з другімі членамі правіцельства, і пакаруся волі народу, выказанай гэтым сэймам, асабліва ва-ўсім, што датычэ формы упраўленьня і аснаўных законаў дзержавы“.

АМСТЭРДАМ. Як апаведаюць француские афіцэры, быўшые у расейскай глаўнай кватэры, Мікалай Мікалаевіч сказаў ім, што, калі-б саюзьнікі энэргічна паддзержывалі Расею, дык можна было бы дайсьці згодлівасьці ў партыйных паглядах. Але яны сваіх павіннасьцей ня выпаўнілі ані матэр'яльна, ані фінансова. Сілы Расеі цяпер гэтак разрознены, што ў канцы народ выскажэцца проці вайны.

ШТОКГОЛЬМ. Пецярбурская рада работнікоў узмацавалася с прычыны прылучэньня да яе ўсіх жалезнадарожных, пачтовых і тэлеграфных служачых, якіе адмовіліся паддзержываць далей тымчасовы урад. Сыгналам да гэтаго была адмова ураду дапускаць пасылку соцыялістычных адозв на фронт.

ПЕЦЯРБУРГ. Протопопова вінавацяць у здрадзі гасударства. Царыцу—ў аднадумстве з ім. Да абвініцельнаго акту далучэны дакумэнты с патайнаго архіву Протопопова. Матэр'ялы апрацовывае і вядзе сьледзтво Бурцэв.

Гэтымі днямі будзе апублікован абвініцельны акт.

Між салдатамі відаць узрост злосьці да тымчасоваго ураду. Часта чуваць гутаркі: „Мы гэтых ягомасьцёў зрабілі міністрамі і мы скінем іх, калі будуць рабіць ня тое, чаго мы хочэмо. Мы хочэм **зямлі, волі і міра**. Калі іх нам не дадуць, мы здабудзем гэта самі“.

ЛОНДОН. Англіцкіе газэты стараюцца заверыць, што «пабочнае» правіцельство гэтак зама забараніло выстаўляць надпісы „Даволі вайны!“

Валынскі полк, каторы першы прылучыўся да рэволюціі, паслаў у Думу дэпутацію са штандарам, на якім было напісано: **„Вайна да канцо! Рабіце гранаты!“**

Кажуць, бытцым аднаго прамоўцу крэпка збілі за тое, што ён прамаўляў проці вайны.

**Сьв. Сынод выйшоў увесь ў адстаўку.** Глаўная і найцяжэйшая задача новаго сыноду—гэта сазыў сабору дзеля развязкі ня церпячай адкладу справы рэформы праваслаўнай цэркві.

Жыдоўскіе газэты, каторые праз два гады былі забаронены, ізноў пачалі выхадзіць.

## Крызіс у Швэціі.

ШТОКГОЛЬМ. Спадзяюцца адстаўкі ўсяго міністэрства Гаммарск'ельд, каторае стаяло за удзержаньне поўнай нэутральнасьці Швэціі.

## Адстаука Бальфура.

ЛОНДОН. Кажуць, што трэба ждаць адстаўкі міністра загранічных спраў, Бальфура, с прычыны недаволі энэргічнай палітыкі ў нэутральных дзержавах у справе падводнай вайны.

---

## „Устаноўчы сэйм“.

Скінуўшы царскую ўласць, палажыўшы канец панаваньню запраўды «Крываваго» Мікалая II, рэволюцыйны рух у Расеі мае перад сабой ешчэ надта вялікую і важную работу. То-ж царскае правіцельство дзержалося гэтак крэпка затым, што па ўсіх канцах гасударства, ў найдалейшых, найболей глухіх куткох яго былі «вочы і вушы царскіе», былі тысячы слуг правіцельства, каторые, пачынаючы ад губэрнатароў і канчаючы вураднікамі ды стражнікамі, сьлепа спаўнялі прыказы с Пецярбурга, трымаючы ў няволі сваіх жэ братоў дзеля добрай заплаты, чыноў і нагрaд... Вось, усю гэту банду царскіх «халопоў» трэба выкурыць з насіджэных мейсц, трэба замяніць іх людзьмі, выбранымі самым народам і ахвочымі працаваць не дзеля няволеньня сваіх братоў, а дзеля вызваленьня іх с путаў цемнаты, безпраўнасьці, нэндзы.

Работа гэта ўжо вядзецца. Рэволюцыйнае правіцельство замяняе губэрнатароў маршалкамі земств, рассылае ўсюды сваіх камісароў і т. п. Але гэтаго мала: выкарэняючы старую ўласць, трэба устанаўляць новую плянова, дапасовываючы яе да таго новаго ладу, каторы павінен настаць замест скінутаго самадзержавія. І цяпер перад насяленьнем Расейскай дзержавы стаіць пытаньне: які-ж будзе гэты лад?

Адказ на гэтае пытаньне павінны даць усе народы Расеі праз сваіх даверэных людзей, выбраных на устаноўчы сэйм («учредітельное собраніе»). Тымчасовае правіцельство абяцалося склікаць устаноўчы сэйм не пазьней, як у тры месяцы, — значыць, ужо нядоўгі час аддзеляе нас ад развязкі справы аб будучым дзержаўным ладзе «новай Расеі». На выбарах маняцца даць право голасу ня толькі ўсім мужчынам, але і кабетам. З выбарнаго права будуць карыстаць і тые расейскіе грамадзяне, якіе цяпер знаходзяцца у арміі.

Ад асноў, на каторых маюць адбыцца выбары устаноўчаго сэйму, будзе залежаць у значнай меры развязка пытаньня аб тым, які характэр будзе мець той сэйм. Нельга забывацца, што цяпер па ўсей дзержаве на вёсцы асталіся найбольш старые і малые, што — паводлуг падрахунку «Нов. Вр.» — нават у такой губэрні, як Харкоўская, дзе земскіе організаціі незвычайна шырока наладзілі народную прасьвету, цяпер пераважываюць неграматные элемэнты (ад 72 да 80%% неграматных!), што яшчэ нет ведама, якіх людзей пашле на устаноўчы сэйм гэты цёмны люд. Толькі голас работнікоў па местох, толькі голас арміі можэ даць перавагу элемэнтам радыкальна-рэспубліканскім, каторые жадаюць новаго ладу без цара. А поруч с тым яны могуць пастанавіць, каб у новай Расеі не маскоўскі народ (вялікарусы) панаваў над другімі народамі, а каб усе народы ў межах супольнай дзержавы былі роўнаправны, упраўлялі-бы самі сабой.

Трэба адзначыць, што расейскіе лібэралы, каторые пераважываюць у тымчасовым рэволюцыйным правіцельстве, заўсёды выяўлялі сільны маскоўскі нацыоналізм і цэнтралізм. Яны заўсёды лічылі народ маскоўскі за гаспадара ў Расейскай дзержаве, інтэрэсы катораго павінны стаяць вышэй за інтэрэсы ўсіх іншых народаў; яны будучый дзержаўны лад асновывалі на концэнтраціі ўласьці ў руках пецярбурскаго правіцельства, не прызнаваючы права на аўтономнае, самаупраўнае жыцьцё тых чысьленых краёў, з якіх складаецца Расея. І цяпер, дайшоўшы ўласьці, яны гатовы прыстаць на незалежны быт утрачэнай у часі вайны Польшчы, вярнуць Фінляндіі стаптаные царскім правіцельствам аўтономные правы, даць аўтономію для Каўказу,—але рэштай зямель хочуць упраўляць па-стараму с Пецярбурга. Так, паводлуг слоў украінскай часопісі «Вільне Слово», ешчэ перад рэволюціей заступнікі літоўскаго грамадзянства зажадалі ад Мілюкова, каб ён, с прычыны неяснаго становішча расейскіх лібэралоў у справе нацыональнай, высказаўся адкрыта аб аўтономіі Літвы. На конфэрэнціі партіі кадэтоў у Маскве пытаньне гэтае было разгледжэно, і думку аб аўтономіі Літвы адкінулі...

*Г. Б.*

# Рэволюцыя у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. За апошніе 24 гадзіны з Расеі не было офіцыальных ведамасьцей.

Штокгольмскі карэспандэнт «Русск. Сл.» атрымаў з Масквы тэлеграму, што мае быць аб'яўлена рэспубліка, а монархія будзе зусім скасована.

Спажыўные справы знаходзяцца ў цяжкім палажэньні. Новае правіцельство спатыкае шмат прашкод, с каторымі яно, аднак, энэргічна змагаецца.

Селяне адносяцца без цікавасьці да новаго ураджаю.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскіе газэты шмат пішуць аб будучай форме упраўленьня гасударствам. Большая часць газэт дамагаецца дэмократычнай рэспублікі. Правые газэты выходзяць пад суровай цэнзурай. «Нов. Вр.», «Колокол», «Русск. Знамя», «Земшчына» і «Русская Земля» — сконфіскованы.

РОТТЭРДАМ. У Дорпаце студэнты-жыды організавалі сваю ўласную міліцію, каторая ня слухае местовай рады. З гэтай прычыны там пануе безладзьдзе і бываюць разрухі.

У пецярбурскіх урадовых кругах пануе сур'ёзнае неспакойство с прычыны настраеньня арміі, між каторай ідзе пропаганда кінуць аружжэ у прыпадку наступленьня ворагоў.

Соцыал-дэмократычная «Правда» друкуе рэзолюцію цэнтральнаго камітэту работнікоў і салдатоў, у каторай салдатоў прызываюць выйсьці з акопоў і перэдацца ворагам, бо немцы не ўмешаюцца ў расейскіе ўнутрэные справы, і настане мір.

Рэволюцыйнае правіцельство загадало арэштаваць генэралоў Эвэрта і Гурко.

У Кіеві генэралу Іванову загадалі не выхадзіць са сваіх пакоёў у гасьцініцы «Continental».

Так-званае «пабочнае» правіцельство папярэдзіло офіцыоз правіцельства «Рэч», што калі ён не пакіне вясьці пропаганду за вайну, то будзе закрыты.

Ваенны міністэр Гучков загадаў абярнуць «Русскій Інвалід» у штодзенную газэту і вясьці праз яго урадовую пропаганду у арміі. Аднак, соцыалісты супраціվіліся спаўненьню гэтаго пляну.

ШТОКГОЛЬМ. Керэнскій апрацовывае цяпер абвініцельны акт проці цара і царыцы, каторых вінавацяць у шпіонстве. Быўшая царыца быццым-то мела ў Царскім Сяле станцію тэлеграфу бяз дроту, праз якую пасылала тэлеграмы ў Бэрлін.

Суд над міністрамі і гасударственыміураднікамі адбудзецца перад судом над царом.

Дзесяць вялікіх князёў з Мікалаем Мікалаевічам напярадзі паслалі тымчасоваму ураду тэлеграму, кажучы, што яны стаяць за новы лад і адрэкаюцца ад удзельных зямель на карысць гасударства.

Тымчасовае правіцельство апавесьціло, што установчы сэйм адбудзецца ў Пецярбурзі.

Работа ў большай часьці пецярбурскіх фабрык спынілася. Ў Пуцілаўскіх заводах—поўны хаос. Работнікі на сваіх сабраньнях заяўляюць, што прычына забастоўкі—пратэст проці далейшай вайны. Дырэктароў пабілі да сьмерці. У гасударственай друкарні работнікі так сама забаставалі; з гэтай прычыны прыпынілося друкаваньне бумажэк.

ШТОКГОЛЬМ. Тымчасовае правіцельство шчыра стаяло за аддачу найвышэйшай ваеннай ўласьці Мікалаю Мікалаевічу, але проці гэтаго станоўча выступіло так-званае «пабочнае» правіцельство, зложэнае с соцыалістоў. Пад націскам апошняго Мікалаю Мікалаевічу прэдлажылі адрачыся ад вярхоўнай ваеннай уласьці.

«Русск. Воля» пішэ, што царскую сям'ю перэвязуць у Англію. Пад надзорам міністра судоў Керэнскаго царскую сям'ю павязуць Мурманскай чыгункай у Раманава, а адтуль у Н'юкастль.

На урочыстым прыёме паслоў саюзьнікоў англіцкі пасол выказаў надзею, што Расея большчым калі-колечы зверне увагу на вайну і не стрымаецца ні перад якімі ахвярамі, каб дайсьці аканчацельнай пабеды над Нямеччынай. Мілюков сказаў, што старое правіцельство затым і скінуто, што яно не магло давясьці вайны да аканчацельнай пабеды. Гэта задача ляжыць на новым правіцельстве.

Сьв. Сынод прызывае ўсіх верных праваслаўнай цэркві слухаць новаго правіцельства і бараніцца да апошняго ад ворагоў. Адозва заканчываецца славамі: „Аддайце ўсе свае сілы волі, якая вядзе Расею да свабоды, шчасьця і славы“.

ШТОКГОЛЬМ. Швэдзкіе газэты напамінаюць, што быўшый дэпутат Мілюков, вертаючыся з Лондона, сказаў у Штокгольмі, што аслабленьне уціску Фінляндіі не павінно дайсьці да аднаўленьня фінляндзкай аўтономіі.

БАЗЭЛЬ. С прычыны загаданай новым урадам рэквізыціі збожжа у розных расейскіх губэрнях былі новые крывавые разрухі. Селяне ня хочуць прадаваць збожжа па устаноўленым найвышэйшым цэнам і супраціўляюцца урадпікам. Селяне і сельскае духавенство—проці новаго правіцельства. Сельскіе сьвяшчэнікі прызываюць селян дзержацца дадзенай прысягі, кажучы, што цар напэўна вернецца на трон.

ПАРЫЖ. «Journal du Peuple» даносіць с Пецярбурга, што дэлегаты мешаных камісій, асабліваж рэволюцыонеры дамагаюцца суда над царом і яго сям'ёй.

«Bonnete Rouge» даносіць, што расейская соцыал-дэмократычная газэта ў Парыжы «Начало» зачынена на месяц.

ШТОКГОЛЬМ. С прычыны спадзеваных маніфэстацій радыкальнай работніцкай партіі, каторая слухае загадоў Чхэідзэ, тымчасовае правіцельство зрабіло шырокіе ваенные прыгатаўленьня.

ШТОКГОЛЬМ. «Русская Воля» пішэ:

На 17-гадзіннай нарадзе рабочаго камітэту і прэдстаўнікоў ваенных часьцей разгледалі справу ўнутрэнаго ладу ў арміі. Нарада была гэткая бурная, што рэзолюцію прышлося адлажыць на пазьнейшы час. У часі спорак прыбыў Керэнскій, катораго ўсе горача віталі. Ен сказаў, што прэдлажыў тымчасоваму правіцельству даць салдатам усе правы, ў тым ліку і право дабівацца афіцэрскаго чына.

Аб організаціі саюза рэспубліканскіх афіцэроў пішуць:

Урад саюза складаецца з 25 асоб, у тым ліку 10 членоў расейскай соцыал - дэмократычнай партіі. Прэдстаўнікі саюза будуць пасланы да паадзінокіх ваенных часьцей — пачынаючы ад палка і вышэй.

У памешчэньні Адміралцейства адбылася сходка, на якой было больш за 1000 душ марскіх афіцэроў, салдатоў і матросоў. Афіцэры казалі, што яны стаяць за дэмократычную рэспубліку, але жадаюць, каб афіцэроў назначала вышэйшая урадовая ўласць. Прамоўцы с-паміж марскіх салдатоў і матросоў гаварылі, што яны жадаюць, каб афіцэроў выбіралі салдаты і матросы. Да іх жаданьня прылучыліся і прэдстаўнікі унтэр-афіцэроў флота.

Работнікі на верфях у Пецярбурзі, Кронштаці і Мікалаеві гразілі ў заяве на пісьме забастоўкай, калі ня будзе прынят закон аб выбары афіцэроў салдатамі. Выбраны чатыры дэпутаты, каторые пададуць жаданьня работнікоў ваеннаму міністру Гучкову.

КОПЭНГАГА. «Politiken» даносіць:

Ваенны міністэр Гучков апрацаваў плян організаціі вышэйшай ваеннай каманды. Упраўленьне расейскай арміі паводлуг гэтаго пляну мае быць аддадзено ў рукі камітэту, зложэнаго з ваеннаго міністра, міністра фінансоў і міністра загранічных спраў. Камітэт развязывае ўсе справы апрыч чыста стратэгічных, якіе развязывае вярхоўны глаўнакамандуючый.

АМСТЭРДАМ. «Telehraf» даносіць с Пецярбурга:

Генэрал Корнілов паехаў у камітэт работнікоў і салдатоў і заявіў ім, што яны павінны зрабіць выбар між далейшай вайной і падчыненьнем Нямеччыне. Далей жэ ваеваць нельга, калі камітэт будзе вясьці сваю агітацію між салдатамі і проці ваеннай пазыкі.

ЛОНДОН. „Times“ даносіць:

Паводлуг намечэнай рэформы арміі салдаты самі будуць заведываць сваім страваваньнем. Дзеля гэтаго кожная рота будзе выбіраць камісію з 8 душ.

Пратэкція між афіцэрамі ня будзе дапускацца. Старые генэралы пойдуць у адстаўку.

Генэрал Лечыцкій, герой леташняго наступленьня на аўстрыяцкім фронці, заменіць генэрала Эвэрта. Спадзяюцца, што ён будзе мець станоўчы ўплыў на афіцэрство.

На ваенных параходах у Владывастоку узняліся бунты.

Найбольш дысцыпліны відаць у групе армій Брусілова. У прыказе Брусілова гаворыцца: „Мы стаім на варці проці старых ворагоў і не павінны здрадзіць сьвятой Русі“.

РОТТЭРДАМ. Як даносяць з Расеі, работніцкі камітэт выбраў 5 членоў дзеля кантролю над правіцельствам. Да камітэту належаць: Чхэідзэ, Стеклов, Скобелев, Суханов і Філіповскій.

Керэнскій сказаў, што палажэньне—ўсё ешчэ сур'ёзнае, але крытычны момэнт ужо мінуў.

Новае правіцельство тымчасова ня будзе ўвадзіць закона аб выбарных правох жанок.

ШТОКГОЛЬМ. На апошнім заседаньні камітэту работнікоў і салдатоў соцыаліст Скобелев сказаў, што паводлуг вестак с Кронштадта, Рэвэля і Сэвастополя выяўляецца сільны рух за рэспубліку. Рух гэты найбольш сільны у флоце. Расейскіе работнікі, праўда, перэважылі, але да аканчацельнай пабеды ешчэ далёка. Скобелев нападаў на англіцкаго пасла, каторы ўвесь час стаяў разам з буржуазіей і быў гатоў прыстаць на тое, каб народ і надалей быў адсунут ад ураду.

ЛЮГАНО. Міністэр загранічных спраў, Мілюков, сказаў карэспандэнту «Corr. d. Sera», што Расея ня зробіць сэпаратнаго міра, бо дэмократычная ідэя можэ запанаваць толькі тады, як Расея дойдзе пабеды. Праграма новаго правіцельства мае на мэці раздзел Турэччыны і вызваленьне славянскіх народаў Аўстрыі.

ЖЭНЕВА. «Temps» даведалася с Пецярбурга, што міністэр фінансоў, Тэрэшчэнко, прыгатаўляе новую вялікую ваенную пазыку.

ЛЮГАНО. «Corr. della Sera» даносіць с Пецярбурга:

Падгатаўляецца гэтак сама і аўтономія Эстляндіі. Эстонскіе дэпутаты паехалі ў Пецярбург дзе-

